*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА


Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 47 (155) ◈ 24 лістапада 1993 г. ◈ Кошт — 5 рублёў.


*Рэха*

## Беларусь канчаткова ў зоне «новага тыпу»

*За такі парадак прагаласавалі 205 дэпутатаў нашага Вярхоўнага Савета. Так здарылася, нягледзячы на перасцярогі аўтарытэтных спецыялістаў. У іх ліку — Аляксандр Сасноў (яго, дарэчы, ніяк нельга далучыць да «беларускіх нацыяналістаў»), які заявіў, што падтрымаць «зоннае» пагадненне здольны толькі расійская «пятая калона» (гэта значыць, таемныя дыверсанты) і мясцовыя здраднікі народа — калабаранты. Непрыхаваную радасць з нагоды зробленага праяўляюць дэпутаты з ліку камуністаў-ветэранаў. Віншавалі сп. В. Ф. Кебіча з «уверенной» перамогай знамянальна: тыя з беларусаў, хто заўзята змагаўся за падпарадкаванне сваёй дзяржавы расійскаму рублю, размаўлялі выключна па-расійску, хоць і з магутным «тутэйшым» акцэнтам. Чый капітал, таго і мова? Тым не менш, «цвёрдыя» грошы і новае «светлае заўтра» правадыры «новай зоны» абяцаюць пабальшавіцку — толькі на далёкую-далёкую перспектыву. Так жыць «лепш і весялей»?*

Ул. А.

## Спадара Кебіча прапануецца выключыць

Менская гарадская рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны прыняла пастанову «Аб выключэнні з сяброўства Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Старшыні Рады Міністраў Вячаслава Кебіча», у якой гаворыцца: «У сувязі з тым, што Старшыня Рады Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч пры выкананні службовых функцый амаль не карыстаецца дзяржаўнай мовай, роднай мовай беларускага народа і тым самым парушае Канстытуцыю Беларускай ССР — частка чатыры артыкула 68: «дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова», а таксама Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі: артыкул 1 «дзяржава ўсталявала дзяржаўнасць беларускай мовы» і артыкул 9 «дзяржава забяспечвае функцыянаванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця»; Законаў аб мовах і адукацыі, а таксама іншыя заканадаўчыя і нарматыўныя акты і тым самым не служыць прыкладам для грамадзян Беларусі па выкананні законаў, просім Рэспубліканскую Раду ТБМ імя Ф. Скарыны выключыць са складу сяброў Таварыства беларускай мовы Вячаслава Кебіча, у склад якіх ён быў прынародна прыняты на другім з'ездзе ТБМ імя Ф. Скарыны».

Дзякуючы руплівасці старшыні прафсаюзнага камітэта Менскага аўтазавода Васіля Дыбаля, на газету «Наша слова» падпісаны кожны аддзел завода, што склала больш за 100 нумароў выдання.

# НА СВЯТЫЯ ДЗЯДЫ

## КУРАПАТЫ






*Рыгор БАРАДУЛІН*

## Куцця

*Чэкістамі закатаваны,*
*На могілках не пахаваны,*
*Паўстань, крывіцкі зорны дух*
*І ты, наш розум раззлаваны!*
*Злучае ўсіх пакут ланцуг*
*Сын неаплаканай матулі*
*Застрэлены савецкай куляй.*
*Прыйдзі, гаротнік, на Дзяды,*
*На плечы збітыя кашуляй*
*Ускінь туман на халады.*
*Працаўнікі зямлі забранай.*
*Абрабаванай, згвалтаванай,*
*Як без'языкія званы,*
*Хоць разгавейцеся пашанай,*
*Куццёй, што зварана з віны.*
*Пасля ўсяго, што чулі вушы,*
*Што вочы бачылі ў двурушшы,*
*Як называцца нам людзьмі?*
*Пакутнікаў святыя душы,*
*Усявышні, да сябе прымі.*




**Рэпартаж пра святкаванне Дзядоў чытайце на с. 2.**

# аб мовах» — не для АН?

*Жыццё Таварыства*

Нягледзячы на вышэй згаданае, мы, сябры ТБМ, не апускаем рукі, а цясней гуртуемся, робім пасільнае. Так, сябры Таварыства з'яўляюцца актыўнымі прапагандыстамі роднага слова і нашай багатай гісторыка-культурнай спадчыны. На ніве нацыянальнага абуджэння нястомна і натхнёна працуюць Леанід Лыч, Міхась Чарняўскі, Яўген Сахута, Лія Салавей. Нашы сябры актыўна ўдзельнічалі ў шматлікіх акцыях ТБМ ды іншых патрыятычных арганізацый (БНФ, БСДГ, БЗВ, ХЗ «Курапаты»), «круглых сталах» па беларускім пашпарце, з нагоды 4-годдзя Таварыства, па слоўнікавых выданнях, па выкананні Закона аб мовах.

Дарэчы, па моўным аспекце новага беларускага пашпарта Акадэмічная рада ўнесла яшчэ летась, на наш погляд, істотныя прапановы. А нядаўна старшыня парламенцкай камісіі сп. М. Слямнёў аб'явіў пра гатоўнасць новага яго ўзору, па нацыянальна-дзяржаўнай сутнасці безаблічнага, дзе мове беларускай наканавана быць у ролі фармальна-афішнай. Беларускія імёны і прозвішчы будуць перакладацца на ангельскую мову, вядома ж, праз мову-пасрэдніцу — расійскую. Гэта пры адсутнасці графы «Нацыянальнасць» азначае страту нацыянальнай адметнасці грамадзян. Ібрагім ці Абрам не стане Іванам, а вось беларус Янка, Янусь — абавязкова! Дамагчыся гэтага камусьці і карціць.

На сёння мы маем Закон аб мовах, прыняты амаль чатыры гады назад. Ужо зышлі тэрміны ўвядзення ў дзеянне, у прыватнасці, артыкулаў 27 «Мова ў сферы навукі» і 31 «Мова аб'яваў і паведамленняў». Сёння ёсць мажлівасць пачуць з вуснаў нашых шаноўных кіраўнікоў пра выкананне гэтых ды іншых артыкулаў Закона аб мовах, Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай і іншых моў, а таксама Пастановы Прэзідыума АН Беларусі № 111 ад 5 снежня 1990 г., паводле якой рэдкалегіі нашай ведамаснай газеты «Навіны Беларускай Акадэміі» рэкамендавана было перайсці на беларускую мову да 1993 г. Прыйшоў згаданы год. І што мы бачым? На старонках тыднёвіка, наадварот, зменшылася колькасць беларускамоўных публікацый, часам застаюцца толькі назоў ды выхадныя дадзеныя.

Возьмем пункт 2 пастановы: перавод справаводства ў АН на беларускую мову. Толькі ў Прэзідыуме Акадэміі паперы афармляюцца па-беларуску. Рабочай мовай на пасяджэннях застаецца мова суседняй дзяржавы. «Не ўсё адразу»,— адказаў неяк шаноўны прэзідэнт на маё пытанне: ці стане Акадэмія навук Беларусі беларускай? Згодны — не адразу. Але ж надта марудна! А ў падраздзяленнях Акадэміі ніякіх зрухаў амаль няма: усё справаводства вядзецца пастарому, не перароблены пішучыя машынкі для друкавання па-беларуску (што зусім нескладана зрабіць), тым больш, што ёсць ужо камп'ютэры з беларускім шрыфтам, пячаткі і штампы.

Адзінае здзейснена: летась гадавыя справаздачы загадчыкі лабараторый упершыню (ды цудоўна!) рабілі публічна па-беларуску. Што значыць ініцыятыва прэзідэнта Акадэміі! Станоўчая з'ява — стварэнне ў Акадэміі кафедры беларускай мовы, дзе ўжо год вядуцца заняткі з аспірантамі. Паступаюць, аднак, скаргі на якасць выкладання.

Нічога не робіць наш сацыяльны абаронца — акадэмічны прафсаюз. Для яго, здаецца, Закона аб мовах, дзяржаўнай і акадэмічнай праграмаў не існуе наогул. Гэты факт выклікае не спачуванне і шкадаванне, а абурэнне і пратэст. Старшыня прафсаюза сп. А. Матусевіч — дыпламаваны юрыст і за дарадчыка мае штатнага прававога інспектара. Юрысты не выконваюць закона?

Нельга не сказаць і пра кніжны кіёск, што месціцца ў будынку Прэзідыума Акадэміі. Там няма ніводнага беларускамоўнага выдання, ні адной кнігі, падрыхтаванай супрацоўнікамі нашай Акадэміі. Што гэта за шавіністычна-прапагандысцкі асяродак суседняй краіны ў нашым інтэлектуальным цэнтры? Хто такое санкцыянуе?

Дзеля актывізацыі беларускамоўнага жыцця ў сістэме Акадэміі, кантролю за ходам выканання Закона аб мовах рада ТБМ прапануе ўтварыць арганізацыйна-масавую камісію пры Прэзідыуме Акадэміі навук з ліку аўтарытэтных навукоўцаў.

Ад Акадэміі навук наша грамадскасць, безумоўна, чакае большага, чым беларускасць яе навуковага жыцця. Самае непасрэднае дачыненне да Акадэміі мае праблема распрацоўкі сучаснай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі. У снежні 1991 г. створана тэрміналагічная камісія, дзейнасць якой засведчана бадай што аднымі працамі адпаведнага аддзела Інстытута мовазнаўства, куды скіроўвалася фінансаванне. Усе астатнія распрацоўшчыкі працуюць без грашовага стымулявання і трацяць на стварэнне тэрміналогіі свой вольны час. Справа ідзе марудна. Відавочныя вынікі — толькі ў вельмі адданых справе сяброў ТБМ у інстытутах фізікі (сп. У. Паўловіч) і матэматыкі (сп. В. Бернік).

Наш святы абавязак — дамагчыся адмены Дэкрэта СНК БССР ад 26 жніўня 1933 г. «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу». Нельга таксама дапусціць ажыццяўлення ідэі двухмоўя на Беларусі. Яе апантана прапагандуе вядомая антыбеларуская выдавецкая фірма «Эридан». Яна падала ў Вярхоўны Савет праект адпаведнага закону, у якім патрабуе замацаваць двухмоўе ў Канстытуцыі краіны. Цяпер, перад лістападаўскай сесіяй Вярхоўнага Савета, нам абавязкова трэба выказаць рашучы пратэст супраць спробаў рэанімацыі гэтай ганебнай ідэі.

Асабіста ўпэўнены, што Беларуская Акадэмія навук з сваёй місіяй пачэсна справіцца. Шмат будзе залежаць ад грамадска-палітычнага клімату ўвогуле, ад нашай з вамі працы.

Язэп СТАПАНОВІЧ,
старшыня
Акадэмічнай рады
ТБМ.

# «Лінгвакультура»: першыя вынікі

***(Гутарка з загадчыцай кафедры тэарэтычнай і эксперыментальнай фанетыкі Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта, доктарам філалагічных навук, прафесарам, дырэктарам НМЦ «Лінгвакультура» Г. А. Мятлюк)***

**— Ганна Антонаўна, вядома, што ў Менскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце (у нядаўнім мінулым — інстытуце замежных моў) дзейнічае крыху больш за год навукова-метадычны цэнтр «Лінгвакультура». Ці можна ўжо сёння гаварыць пра нейкія вынікі работы цэнтра?**

— Навукова-метадычны цэнтр «Лінгвакультура» ставіць перад сабой доўгатэрміновую задачу як далейшага развіцця эксперыментальна-фанетычных даследаванняў вуснай мовы, так і ўкаранення ў практыку выкладання моў вынікаў навуковых даследаванняў. Таксама імкнёмся спрыяць развіццю моўнай культуры людзей, дапамагаць тым, хто вывучае родную і іншаземныя мовы, авалодваць правільным маўленнем, своеасаблівымі інтанацыямі і гукамі другіх моў, іх, так бы мовіць, музыкай. Яшчэ адна важная задача — засваенне бездакорнага стылю і этыкету моўных зносін у розных сітуацыях.

**— Ёсць звесткі, Вы дапамагаце і дзецям, якія маюць прыродныя дэфекты маўлення, у тым ліку глухім.**

— Так, у цэнтры вядзецца таксама інтэнсіўная работа па навучанню замежным мовам і ўвогуле развіццю навыкаў маўлення на роднай мове ў дзяцей з парушаным слыхам і, адпаведна, тых, якія маюць у выніку цяжкіх захворванняў моўныя дэфекты. У гэтым накірунку ўжо атрыманы цікавыя вынікі. Дарэчы, яны выклікалі цікавасць на міжнародных канферэнцыях у Хельсінкі і Санкт-Пецярбургу летам гэтага года. Па выніках нашых даследаванняў цяпер распрацоўваецца арыгінальны падручнік для вучняў з дэфектамі слыху. Ён ужо апрабаваны ў спецшколе-інтэрнаце № 13 г. Менска і атрымаў высокую адзнаку школьных сурдапедагогаў. Пры НМЦ «Лінгвакультура» распрацаваны таксама спецыяльны курс англійскай і французскай моў для вучняў гэтай школы. У ім выкарыстоўваецца вельмі эфектыўны метад візуальна-фанетычнага кадзіравання адначасова з «чытаннем з губ».

**— Да гэтай працы неяк падключаны і бацькі?**

— Вядома. Па ініцыятыве цэнтра пры рэспубліканскім Палацы культуры глухіх створана асацыяцыя бацькоў, якія маюць глухіх дзяцей. Яе ўзначальвае вельмі цікавы чалавек, адданы сваёй працы, энтузіяст Святлана Міхайлаўна Дарашэвіч. Яна разам са мной і маёй калегай дацэнтам Надзеяй Сямёнаўнай Еўчык прынята членам французскай асацыяцыі па развіцці і распаўсюджванні візуальна-фанетычнага кадзіравання.

**— Ну, а астатнія спецыялісты, занятыя ў цэнтры, які ў іх навуковы багаж?**

— У нас працуюць вядучыя выкладчыкі-фанетысты, спецыялісты даволі рэдкай, але вельмі патрэбнай прафесіі. Гэта дактары і кандыдаты навук, якія займаюцца навуковымі даследаваннямі і адначасова выкладаюць практычную фанетыку розных моў. За парадамі і дапамогай да іх звяртаюцца не толькі навучэнцы, але і калегі-выкладчыкі, якія не з'яўляюцца спецыялістамі ў галіне фанетыкі: настаўнікі каледжаў і гімназій, у тым ліку, дарэчы, педагогі і студэнты кансерваторыі. У цэнтр прыходзяць за кансультацыямі таксама студэнты БДУ, якія пішуць дыпломныя працы па беларускай інтанацыі. Тут яны могуць запісаць на фераплёнку і на інтанограф свой эксперыментальны матэрыял, правесці слыхавы і акустычны аналіз інтанацыі, а таксама зрабіць яе лінгвістычны аналіз. Для гэтага ў лабараторыі кафедры тэарэтычнай і эксперыментальнай фанетыкі, пры якой існуе наш цэнтр, ёсць неабходнае абсталяванне: камп'ютэр, інтанограф, лінгватрэнажор, а галоўнае — добра распрацаваная методыка эксперымента.

**— Даводзілася чуць, што лінгватрэнажорамі вы забяспечылі нават некаторыя гімназіі і ліцэі ў Менску, дзе вядзецца выкладанне замежных моў, а таксама спецшколу-інтэрнат № 13 г. Менска. Што гэта за прыбор?**

— Мы лічым вельмі значным дасягненнем у нашай даследчай і практычнай рабоце выкарыстанне лінгватрэнажора, які дае вялікія магчымасці для развіцця слыху, навыкаў утрымання мовы, засваення тэкстаў, карэкцыі вымаўлення. Гэта прыбор айчынны, беларускі, яго распрацавалі нашы супрацоўнікі С. М. Царык і Г. А. Галкін. Мы абсталявалі спецыяльныя рабочыя месцы з лінгватрэнажорам у зале праслухоўвання, дзе працуюць студэнты і выкладчыкі. Праведзена апрабацыя прыбора і вызначана яго высокая эфектыўнасць у вывучэнні моў.

**— Ну, а ці складана падтрымліваць сувязь са сваімі замежнымі калегамі?**

— Ва ўсякім разе, прасцей, чым гэта было раней. Зараз устаноўлены добрыя гуманітарныя кантакты з французскімі і нямецкімі калегамі. Мы атрымалі гуманітарную дапамогу. Дзецям дасланы вельмі неабходныя рэчы — слыхавыя апараты, вібратары, медыкаменты, сшыткі, падручнікі. Наладжваецца абмен групамі тэатральнага калектыву рэспубліканскага Палаца культуры глухіх і вядомай музыкальнай групай з Францыі. Не так даўно пад непасрэдным кіраўніцтвам Н. С. Еўчык і сурдапедагога Палаца культуры глухіх Л. І. Чартовай вучні спецшколы-інтэрната № 13 паставілі на французскай мове «Чырвоную шапачку», на прэм'еры якой прысутнічалі прадстаўнікі французскага пасольства ў Беларусі. Яны прапанавалі паказаць гэты спектакль шырокаму колу гледачоў. У бюлетэні французскай асацыяцыі бацькоў глухіх дзяцей адзначалася, што спектакль на французскай мове — гэта беспрэцэдэнтная падзея ў асацыяцыі глухіх Беларусі. Хацелася б шчыра падзякаваць і нашым студэнтам факультэта французскай мовы І. Юрэвіч, А. Свенціхоўскай, І. Кірыловіч, А. Петран, І. Хілюце, якія з вялікай зацікаўленасцю ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы дзяцей да спектакля.

**— Але давайце зноў вернемся да нашай роднай, беларускай мовы. Які ў цэнтры пра яе клопат?**

— Перш-наперш прыгадаю пра курсы беларускай мовы. Падрыхтоўку і перападрыхтоўку на іх праходзяць супрацоўнікі ўсіх факультэтаў нашага універсітэта, студэнты, якія будуць здаваць магістэрскія экзамены. Дарэчы, з верасня нашы спецыялісты дапамагаюць засвойваць беларускую мову ў іншых дзяржаўных установах, у тым ліку на вышэйшых курсах Камітэта дзяржбяспекі.

**— Ну і напрыканцы, пра планы на перспектыву.**

— Нашы перспектывы акрэслены той работай і тымі дасягненнямі, якія мы маем на кафедры тэарэтычнай і эксперыментальнай фанетыкі.

**Гутарыла**
**[illegible]**

*Удакладнім*

# Знакі прыпынку ў сярэдзіне сказа

***Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА.***

## Перарывы ў сказе

Пры перарывах у сказе, якія абумоўлены псіхафізічнымі затрымкамі ў афармленні змешчанага ў ім выказвання, ставіцца шматкроп'е. Такія перарывы могуць быць у простым і ў складаным сказе.

У простым сказе шматкроп'ем аддзяляюцца:

галоўныя і даданыя члены сказа: *Сонца... высока ў небе* (П. Трус). *У Сашы дзіця... маленькае... у пачатку вайны нарадзілася* (І. Шамякін);

аднародныя члены сказа: *Зерне абавязкова ўзыдзе... зарунее...* (І. Гурскі). *Пальецца ў цішы песня радасці... смутку... і болю...* (П. Трус). *Іван мармытнуў нешта пад нос і... заснуў* (Якуб Колас);

адасобленыя члены сказа: *Там ...на дне... цвілі лілеі* (П. Трус). *Хвалявацца не трэба... асабліва сягоння* (К. Крапіва);

словы і спалучэнні слоў, граматычна не звязаныя з членамі сказа: *Як і што тут робіцца... ая-яй!* (Міхась Чарот). *Куды ж яму... ну... дзецца было* (Якуб Колас).

У складаным сказе шматкроп'ем аддзяляюцца:

прэдыкатыўныя часткі складаназлучаных сказаў: *Пройдзеш і... следу не стане* (Змітрок Бядуля). *Можа, яго хто падгаварыў... дык жа не!* (У. Краўчанка);

прэдыкатыўныя часткі складаназалежных сказаў: *Хутчэй вяртайся... бо я буду сумаваць* (І. Мележ);

прэдыкатыўныя часткі бяззлучнікавых складаных сказаў: *На дварэ холадна... ідуць дажджы* (М. Зарэцкі). *Ты маўчыш... гавораць іншыя* (Б. Мікуліч);

прэдыкатыўныя часткі камбінаваных складаных сказаў: *Свеціць сонца... а цяпла ўжо няма... бо зіма блізіцца* (В. Каваль).

## Просты сказ

### Знакі прыпынку паміж дзейнікам і выказнікам

1. Калі дзейнік і выказнік выражаны назоўнікамі ў назоўным склоне (часам у спалучэнні з іншымі часцінамі мовы), то пры адсутнасці дзеяслова-звязкі, лагічным выдзяленні дзейніка або выказніка і наяўнасці паўзы паміж імі звычайна ставіцца працяжнік: *Маці — настаўніца ў вёсцы* (П. Пестрак). *Дзед — рыбак славуты* (Змітрок Бядуля). *Смелы пачатак — палавіна перамогі* (Прыказка).

**Заўвага.** У тых выпадках, калі паміж дзейнікам і выказнікам размешчаны залежныя ад іх словы, працяжнік ставіцца паміж групай (саставам) дзейніка і групай (саставам) выказніка: *Астап Лугавік — школьны інспектар* (Якуб Колас). *Душа народа — песня* (Я. Брыль).

Працяжнік не ставіцца, калі паміж дзейнікам і выказнікам у сказе няма паўзы, а самі члены лагічна не выдзяляюцца: *Несцяровіч мой сусед* (Кузьма Чорны). *Бацька мяккай душы чалавек* (В. Быкаў). *Жыццця народ сам гаспадар* (А. Астрэйка).

2. Паміж дзейнікам і выказнікам, выражанымі назоўнікамі ў назоўным склоне, ставіцца працяжнік:

калі выказнік з'яўляецца лагічным азначэннем дзейніка: *Мікуцічы — вялікае сяло на беразе Нёмана* (Якуб Колас). *Балачанка — невялікая рачулка, якой і на карце няма* (І. Мележ);

калі выказнік змяшчае ацэнку таго, што абазначана дзейнікам: *Смутак — занятак гультаёў* (І. Шамякін). *Неба — просінь будучага дня* (А. Вялюгін). *Час — лекар болю* (А. Куляшоў);

калі выказнік уступае ў параўнальныя адносіны з дзейнікам: *Дуб — волат* (Якуб Колас). *Вочы — усмешкі вясны* (П. Трус). *Голас — срэбраны званочак* (Якуб Колас);

калі дзейнік і выказнік выражаны адным і тым жа назоўнікам, які ўжываецца з рознымі паясняльнымі словамі: *Першы крок — смелы крок* (Якуб Колас). *Шум дрэў — таемны шум* (Змітрок Бядуля). *Матчыны рукі — залатыя рукі* (І. Мележ);

калі выказнік знаходзіцца пасля аднародных дзейнікаў: *Бацька і сын — леснікі* (Кузьма Чорны). *Гамонка, смех і коней ржанне — касьбы вясёлае вітанне* (Якуб Колас);

калі пасля дзейніка знаходзяцца аднародныя выказнікі з процілеглым значэннем: *Якуб — золата, а не хлопец* (Якуб Колас): *Агата — мачыха, а не маці* (В. Каваль). **Параўн.:** *Вясна — час работы, а не гутарак* (І. Шамякін) -- аднародныя азначэнні;

калі патрэбна удакладніць ўзаемаадносіны паміж дзейнікам і выказнікам або іх групамі (саставамі), **параўн.:** *Сястра — мая настаўніца* і *Сястра мая — настаўніца.*

**Працяжнік не ставіцца:**

калі выказнік знаходзіцца перад дзейнікам: *Добры каваль дзядзька Кандрат* (Х. Шынклер). *Нядрэнны хлопец гэты дарожны майстар* (М. Лынькоў). *Страшэнны штукар і свавольнік гэты Нёман* (Якуб Колас);

калі дзейнік знаходзіцца ў сярэдзіне выказніка: *Спраўны Мацей хлопец* (А. Савіцкі). *Асцярожная жаўна птушка* (В. Вольскі);

калі дзейнік і выказнік цесна звязаны адзінствам свайго зместу: *Грош цана такой рабоце* (Якуб Колас). *Дрэнь справы ў мяне* (І. Мележ);

калі паміж дзейнікам і выказнікам знаходзяцца асобныя прыслоўі і часціцы: *Хлопец цяпер аграном* (Т. Хадкевіч). *Марына ўжо настаўніца* (І. Грамовіч). *Прыёмшчык усё-такі начальства* (І. Навуменка);

калі паміж дзейнікам і выказнікам знаходзяцца даданыя члены, якія звязаны з выказнікам, але не дапасуюцца да яго: *Воля сонейку раўня* (Янка Купала). *Пушча мне дом родны* (А. Астрэйка). *Сцяпан у калгасе аграном* (У. Краўчанка). Аднак пры ўзмоцненым інтанацыйным і сэнсавым чляненні паміж дзейнікам і выказнікам ставіцца працяжнік: *Хлеб — усяму галава* (Прыказка);

калі паміж дзейнікам і выказнікам знаходзяцца пабочныя словы, адасобленыя члены або даданыя часткі складаназалежнага сказа: *Міхась, вядома, будаўнік* (А. Кулакоўскі). *Сяргей, безумоўна, добры таварыш* (Я. Брыль). *Хлопец, апрануты ў салдацкі шынель, наш зямляк* (Кузьма Чорны).

**Заўвага.** Калі ў ролі адасобленага члена ўжываецца прыдатак, тады пастаноўка працяжніка абавязковая, напр.: *Даніла, вясковы пастух,— смелы чалавек* (Змітрок Бядуля).

3. Калі выказнік выражаны назоўнікам у назоўным склоне, а дзейнік — назоўнікам у творным склоне з дзеясловам-звязкай, то паміж імі заўсёды ставіцца працяжнік: *Быць фермерам — пачэсная праца.*

Заўсёды ставіцца працяжнік, калі выказнік выражаны назоўнікам у назоўным склоне, а дзейнік — інфінітывам: *Падрыхтаваць цікавы даклад — справа нялёгкая* (А. Кулакоўскі). Пры адваротным размяшчэнні такіх членаў працяжнік ставіцца або не ставіцца згодна з іх лагічным выдзяленнем у сказе: *Нялёгкая задача падрыхтаваць добры даклад.*

4. Калі выказнік выражаны назоўнікам у назоўным склоне, а дзейнік — асабовым займеннікам, то працяжнік звычайна не ставіцца: *Я шафёр* (М. Лынькоў). *На прамовы ён мастак* (М. Лужанін). *Яны вясёлыя хлопцы* (Т. Хадкевіч). *Мы людзі свабодныя, вольныя птахі* (Янка Купала).

Але калі дзейнік або выказнік выдзяляюцца лагічна, тады ставіцца працяжнік: *Яны — працавітыя людзі* (Кузьма Чорны). *Беларусь, я — твой воін адданы і сын...* (П. Панчанка).

Заўсёды ставіцца працяжнік, калі выказнік або група (састаў) выказніка суправаджаецца пытальнай ці клічнай інтанацыяй пры апавядальнай інтанацыі дзейніка: *Ён — музыкант?* (Б. Мікуліч). *Я — пастух?* (П. Галавач). *Яны — вартаўнікі народнага дабра!* (С. Баранавых).

Калі ж пытальнай або клічнай інтанацыяй афармляецца ўвесь сказ, тады паміж дзейнікам і выказнікам працяжнік не ставіцца: *Яны вашы шэфы?* (Т. Хадкевіч). *Вы наш новы настаўнік?* (Якуб Колас). *Мы вольныя людзі!* (Янка Купала).

5. Калі выказнік выражаны назоўнікам у назоўным склоне і мае пры сабе адмоўе *не*, то пры звычайнай інтанацыі працяжнік не ставіцца: *Дзядзька Марцін не рамантык* (Якуб Колас). *Ганька не абыякавая гаспадыня* (А. Васілевіч). *Хто бабе не ўнук* (Змітрок Бядуля). *У бор хадзіць Алёшку не навіна* (А. Якімовіч).

Але пры інтанацыйнай паўзе і лагічным выдзяленні аднаго з галоўных членаў сказа пастаноўка працяжніка абавязковая: *Сэрца — не камень* (Якуб Колас). *Рак — не рыба* (Кузьма Чорны). *Зямлянка — не дом* (А. Куляшоў).

Працяжнік ставіцца таксама тады, калі пасля выказніка з адмоўем *не* знаходзяцца словы, якія супастаўляюцца з гэтым выказнікам або тлумачаць яго змест: *Людзі — не людзі, а манекены, якія рухаюцца па сцэне* (Кандрат Крапіва). *Чужына — не родная матка, хлеба не дасць* (Прыказка). *Абед — не заяц, у лес не ўцячэ* (Прыказка).

Пры інверсійным размяшчэнні дзейніка і выказніка з адмоўем *не* ў сказе працяжнік паміж імі не ставіцца: *Не гаспадар ужо стары Цімох* (Змітрок Бядуля). *Не дружба царская служба* (Янка Купала). *Не навіна машына ля двара* (П. Броўка).

*Працяг будзе.*

# ПЛАН

## навучальных тэлеперадач на 1993/94 навучальны год

*СНЕЖАНЬ*

| № п/п | Дата | Клас | Прадмет | Тэма |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 36. | 30.11,01.12 | 7 | музыка | Музычны вобраз |
| 37. | 2,3 | 9 | гісторыя Беларусі | Культура Беларусі ў канцы 20-х – 30-я гг. XX ст. |
| 38. | 6,7 | 4 | мая радзіма – Беларусь | Гістарычныя помнікі Беларусі |
| 39. | 7,8 | 3 | пазакласнае чытанне | Сябруйце з „Вясёлкай" |
| 40. | 9,10 | 10 | беларуская літаратура | Пуцявіны Андрэя Лабановіча /па старонках трылогіі Якуба Коласа „На ростанях"/ |
| 41. | 13,14 | 7 | гісторыя Беларусі | Далучэнне Беларусі да Расійскай імперыі |

| № п/п | Дата | Клас | Прадмет | Тэма |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 42. | 14,15 | 6 | выяўленчае мастацтва | Выразныя сродкі манументальнага жывапісу |
| 43. | 16,17 | 11 | гісторыя Беларусі | Грамадска-палітычнае жыццё Беларусі ў сярэдзіне 40-х – 50-я гг. |
| 44. | 20,21 | 3 | музыка | Музычныя знакі прыпынку |
| 45. | 21,22 | 9 | беларуская літаратура | Ад імя народа /Францішак Багушэвіч і яго творчасць/ |
| 46. | 23,24 | 9 | гісторыя Беларусі | Абарона Брэсцкай крэпасці |
| 47. | 27,28 | 3 | выяўленчае мастацтва | Выразныя сродкі скульптуры |
| 48. | 28,29 | 2 | азнаямленне з навакольным светам | Зімовыя народныя святы |

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ У ПЫТАННЯХ І АДКАЗАХ

## Што рабілі беларусы ў Маскве ў XVII стагоддзі?

Уплыў беларусаў на духоўную і матэрыяльную культуру Маскоўшчыны быў адчувальны ўжо з часоў Сярэднявечча. У XVII стагоддзі ён стаў вызначальным і абымаў літаральна ўсе сферы жыцця.

Перасяленні беларусаў на Маскоўшчыну ў XVII стагоддзі адбываліся з розных прычынаў: у 30—40-х гадах шмат нашых суайчыннікаў змушаныя былі выехаць туды ў выніку наступу паланізацыі, а падчас вайны 1654—1667 гадоў іх у вялікай колькасці (блізу 300 тысяч) забралі ў палон.

Беларусы жылі ў Маскве ў розных месцах. У 1672 годзе яны засялілі гэтак званую Мяшчанскую (Новамяшчанскую) слабаду. Да прыкладу, у 1685 годзе тут жыло 612 сем'яў, што выехалі з розных куткоў Беларусі. Шмат беларусаў жыло па-за межамі Мяшчанскай слабады. Так, у Новадзявочым манастыры знаходзілася блізу 300 беларускіх манашак, што перасяліліся сюды з Куцеінскага манастыра. Наогул, паводле падлікаў вучоных, у другой палове XVII стагоддзя беларусы складалі каля 20% насельніцтва Масквы.

Надзвычай важкім быў уклад беларусаў у развіццё маскоўскага дойлідства, яскравым пацверджаннем чаго з'яўляецца пабудованы нашымі продкамі шэдэўр архітэктуры — Каломенскі палац.

Менавіта беларусы прынеслі ў Маскву аб'ёмную, ажурную, высокарэльефную рэзь. Разная драўляная паверхня, выкананая ў стылі барока, пакрывалася сусальным золатам па спецыяльным грунце і старанна паліравалася. Сярод унікальных твораў беларускай рэзі ў Маскве можна назваць іканастас Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра — помнік культуры сусветнага значэння. Кіравалі гэтымі работамі Клім Міхайлаў, Герасім Акулаў, Восіп Андрэеў, Андрэй Фёдараў, Яўсей Сямёнаў.

Прыкметную ролю ў развіцці рамяства ў Маскве адыгралі беларускія кафляры, якія прынеслі сюды сакрэт вырабу рэльефнай шматколернай кафлі. Найбольш славутымі кафлярамі былі вучні беларускага майстра Пятра Заборскага з Вільні — выхадзец з Копысі Ігнат Максімаў і мсціславец Сцяпан Іванаў. Гэтыя майстры разам зрабілі кафляныя фрызы царквы Рыгора Неакесарыйскага ў Маскве, а потым паліхромную кафлю для фасадаў Пакроўскага сабора ў Ізмайлове. Сцяпан Іванаў (па мянушцы Палубес) стварыў унікальныя маёлікавыя рэльефы Апосталаў для барабана царквы Успення ў Ганчарах (1691 год). Зараз некаторыя яго творы можна пабачыць у музеі народнага мастацтва ў Каломенскім.

Беларускія майстры працягвалі традыцыі гарматніцкай справы, закладзеныя яшчэ Андрэем Чохавым (Чэхавым), таксама беларусам з паходжання, які ў 1586 годзе адліў славутую «Цар-гармату». У Маскве ў XVII стагоддзі асабліва цаніліся беларускія збраёўнікі, якія выраблялі халодную і агнястрэльную зброю; яны працавалі ў складзе Збраёвай (Аружэйнай) палаты.

Сярод беларусаў-ювеліраў вылучаліся спецыялісты па апрацоўцы срэбра, якія выраблялі багата аздоблены посуд і царкоўнае начынне.

Менавіта дзякуючы нашым таленавітым продкам высокага ўзроўню ў Маскве дасягнула майстэрства апрацоўкі косці. Асаблівымі здольнасцямі ў гэтай галіне вылучаліся былыя віцебскія майстры, якія выраблялі дзівосныя па прыгажосці шахматныя фігуркі са слановай косці, а таксама шахматныя дошкі і столікі.

Стваральная праца беларусаў у Маскве ў XVII стагоддзі не абмяжоўвалася толькі сферай матэрыяльнай культуры. Вельмі плённым было ўздзеянне нашых продкаў на духоўнае жыццё Масковіі. Дастаткова прыгадаць імя Епіфана Славінецкага, які быў адной з ключавых асобаў у часе вядомых царкоўных рэформаў Нікана. Ён пераклаў і выдаў шмалікія творы айцоў царквы, склаў грэцка-славянска-расійскі лексікон. Дзякуючы ягонаму перакладу твора заснавальніка навуковай анатоміі А. Везалія «Пра будову чалавечага цела», маскоўскія медыкі далучыліся да вяршыняў анатамічнай навукі Заходняй Еўропы.

Выключнае месца ў маскоўскай культуры заняў Сымон Полацкі — вядомы асветнік, таленавіты паэт, непаўторны драматург, унікальны багаслоў, тонкі перакладчык і выдатны педагог. Яму належыць гонар укладальніка і аўтара першага Статута Маскоўскай акадэміі. Пад яго кіраўніцтвам доўгі час дзейнічала маскоўская друкарня. Ён жа, дарэчы, быў і незаменным выхавальнікам царскіх дзяцей, аддаваў шмат увагі ўзгадаванню Пятра I — будучага цара-рэфарматара.

Акрамя таго, беларусы заклалі асновы расейскага тэатра. Яны былі акторамі тэатральнай трупы пры двары Аляксея Міхайлавіча. Нават касцюмы для тэатра рыхтавалі ў асноўным беларускія краўцы і шаўцы. Вельмі шмат беларусаў было і сярод царкоўных спевакоў ды вайсковых музыкаў; яны зрабілі моцны ўплыў на развіццё расейскага музычнага мастацтва.

**Алег ТРУСАЎ.**

## Ці быў «залаты век» у гісторыі Беларускай дзяржавы?

Узнёслы, апагейны перыяд развіцця нашае дзяржавы і культуры прыпаў на XV—XVI стагоддзі. Першадаследчыкі «залатога веку», пераўсім Вацлаў Ластоўскі, Усевалад Ігнатоўскі, Максім Гарэцкі, звязвалі яго з найбуйнейшым росквітам нашае старадаўняе культуры, найперш з дзейнасцю Францішка Скарыны, яго выданнем кніг у Празе (1517—1519) і ў Вільні. Сучасныя ж даследчыкі ў актыў плёну прыгожага пісьменства нашага «залатога веку» залічваюць багатую спадчыну не толькі на старабеларускай і царкоўнаславянскай мовах, але і на лаціне — мове ўсёй сярэднявечнай Еўропы. Пры гэтым маюцца на ўвазе такія выдатныя творы, як «Пруская вайна» (1516) Яна Вісліцкага і «Песня пра зубра» (1519) Міколы Гусоўскага.

Залатая пара нашае культуры была знітаваная не толькі з Рэнесансам, але і з Рэфармацыяй, дзейнасцю такіх слынных асобаў як Мікалай Радзівіл Чорны, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі.

У XVI стагоддзі на Беларусі ўзнікла мноства навучальных установаў. У Вільні, Нясвіжы, Берасці, Лоску, Любчы, Цяпіне ды Венграве паўсталі друкарні, вакол якіх утвараліся цэлыя літаратурныя школы. Прадукцыя нашых друкароў карысталася шырокім попытам не толькі ў Вялікім Княстве, але і ў краінах Заходняй Еўропы.

Значнымі былі дасягненні нашых продкаў у навуцы. Асабліва развіваліся лінгвістыка, гісторыя, геаграфія, астраномія, матэматыка і медыцына. А юрыдычная думка Беларусі ў XVI стагоддзі, як вядома, дасягнула найвышэйшага ў Еўропе ўзроўню. Ніводная з тагачасных краінаў не мела гэткага дасканалага заканадаўства як Беларусь, аб чым красамоўна сведчыць змест Статутаў 1529, 1566 і 1588 гадоў.

Эпоха Адраджэння на Беларусі пазначана небывалым узлётам мастацтва. У нас у тым часе ўзніклі першыя прафесійныя тэатры, развіваецца музычнае мастацтва, з'яўляецца свецкі партрэтны жывапіс — прыкмета высокага ўзроўню развіцця мастацкай творчасці. У XVI стагоддзі ўдасканальваецца іканапіс, скульптура, дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва, гравёрнае майстэрства.

У залатую пару нашае дзяржавы надзвычай хуткімі тэмпамі развіваецца горадабудаўніцтва і дойлідства. Менавіта тады былі пабудаваныя жамчужыны нашае архітэктуры: Траецкі касцёл у Ішкалдзі, Святадухаўская царква ў Кодзені, Барысаглебская царква ў Навагародку, фарны касцёл у Горадні, касцёлы Святой Ганны і бернардынцаў у Вільні, шэдэўры сусветнага дойлідства цытадэлі-бажніцы ў Супраслі, Мураванцы, Сынковічах, рэфармацкія зборы ў Смаргоні, Заслаўі, Асташыне, абарончыя сістэмы замкаў у Міры, Нясвіжы, Навагародку...

У эпоху Адраджэння ў Беларусі адбывалася далейшае развіццё металургічнай і цагельнай вытворчасці, шмалікіх рамёстваў. Узнікла новая, больш дасканалая арганізацыя працы, утвараліся рамесніцкія цэхі, дзе існаваў прынцып спецыялізацыі і падзелу працы.

Такім чынам, «залаты век» у гісторыі беларусаў быў. І быў ён залаты найперш багаццем творчага плёну, яго шматграннасцю, абсягам, пафаснасцю ўсяго створанага, светлай ідэяй Асветніцтва, высокім патрыятызмам, чалавекалюбствам; быў і застаўся залатым сваёй векапомнасцю, аграмаднасцю традыцый, грунтоўнасцю зацвярджання беларусаў у свеце.

**Алег ЛОЙКА.**

## Пытанне — адказ

*Ходзяць чуткі, што штат супрацоўнікаў Акадэміі навук Беларусі, у тым ліку і Інстытута мовазнаўства скарачаецца. Але ж цяпер асабліва патрэбны спецыялісты-мовазнаўцы: паступова пашыраецца сфера ўжывання нашай мовы, распрацоўваецца навуковая тэрміналогія на беларускай мове. Ці адолее такую вялікую працу калектыў Інстытута мовазнаўства? І наогул, раскажыце пра яго структуру.*

г. Баранавічы. **В. КАРМІНСКІ.**

## ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА СЁННЯ

**1. Аддзел сучаснай беларускай мовы (18 супрацоўнікаў).**

Створаны ў 1992 г. на базе аддзелаў сучаснай беларускай мовы і культуры мовы і эксперыментальнай фанетыкі.

Загадчык аддзела член-карэспандэнт АН Беларусі, доктар філалагічных навук (спецыяльнасць — беларуская мова), прафесар А. І. Падлужны (1935 г. нараджэння). Узначальвае аддзел з 1992 г.; з 1969 г. узначальваў аддзел эксперыментальнай фанетыкі.

Публікацыі:

1) «Фаналагічная сістэма беларускай літаратурнай мовы», Мн., 1969;

2) «Нарыс акустычнай фанетыкі беларускай мовы», Мн., 1977;

3) у аддзеле эксперыментальнай фанетыкі выйшла буйная калектыўная манаграфія «Фанетыка беларускай літаратурнай мовы» (Мн., 1990), выкананая пад кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле А. І. Падлужнага.

**2. Аддзел лексікалогіі і лексікаграфіі (6 супрацоўнікаў).**

Загадчык аддзела доктар філалагічных навук (спецыяльнасць — руская мова, беларуская мова) В. П. Лемцюгова (1935 г. нараджэння). Узначальвае аддзел з 1987 г.

Публікацыі:

1) «Украінска-беларускі слоўнік», Мн., 1980;

2) манаграфія «Восточнославянская ойконимия апеллятивного происхождения», Мн., 1983;

3) «Беларуская граматыка», Мн., 1985, ч. I (у сааўтарстве).

**3. Аддзел гісторыі беларускай мовы (9 супрацоўнікаў).**

Загадчык аддзела доктар філалагічных навук (спецыяльнасць — беларуская мова), прафесар А. М. Булыка (1935 г. нараджэння). Узначальвае аддзел з 1992 г.; з 1984 г. узначальваў аддзел беларуска-рускіх моўных сувязей.

Публікацыі:

1) «Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы», Мн., 1970;

2) «Даўнія запазычанні беларускай мовы», Мн., 1972;

3) «Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV — XVIII стст.», Мн., 1980.

**4. Аддзел дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі (9 супрацоўнікаў).**

Загадчык аддзела (пасада вакантная).

**5. Аддзел славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства (9 супрацоўнікаў).**

Загадчык аддзела доктар філалагічных навук (спецыяльнасць — славянскія мовы), прафесар Г. А. Цыхун (1936 г. нараджэння). Узначальвае аддзел з 1990 г.

Публікацыі:

1) «Синтаксис местоименных клитик в южнославянских языках», Мн., 1968;

2) «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы», тт. 1—8, 1978—1993 (у сааўтарстве);

3) «Типологические проблемы балканославянского языкового ареала», Мн., 1981;

4) «Тураўскі слоўнік», тт. 1—5, Мн., 1982—1987 (у сааўтарстве);

5) «Арэальныя аспекты фарміравання славянскіх літаратурных моў», Мн., 1993.

**6. Аддзел беларуска-рускіх моўных сувязей (6 супрацоўнікаў).**

Загадчык аддзела кандыдат філалагічных навук (спецыяльнасць — руская мова), старшы навуковы супрацоўнік (беларуская мова) А. А. Лукашанец (1954 г. нараджэння). Узначальвае аддзел з 1992 г.

Публікацыі:

1) «Язык — общество — политика», Мн., 1988 (у сааўтарстве);

2) «Сопоставительное описание русского и белорусского языков. Морфология», Мн., 1990 (у сааўтарстве);

3) «Беларуская мова. Цяжкія пытанні фанетыкі, арфаграфіі, граматыкі», Мн., 1987 (у сааўтарстве).

## Кароткая энцыклапедыя беларускай мовы

**Пётр Апанасавіч БУЗУК** (14.07.1891, в. Цярноўка, Малдавія — 1937) — выдатны беларускі мовазнавец-паліглот. Пасля заканчэння ў 1916 годзе гісторыка-філалагічнага факультэта Адэскага універсітэта працаваў там дацэнтам, прафесарам. У 1925 г. першы рэктар БДУ У. І. Пічэта запрасіў яго чытаць лекцыі ў першым беларускім універсітэце. Праз год П. А. Бузук пачаў працаваць у Інбелкульце загадчыкам дыялекталагічнай камісіі, а пасля — у камісіі, што складала слоўнікі жывой беларускай мовы, ды ў тэрміналагічнай камісіі. З 1931 г. — дырэктар Інстытута мовазнаўства АН Беларусі, адначасова — загадчык кафедры мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага вышэйшага педагагічнага інстытута. У пачатку 1934 г. П. А. Бузук быў беспадстаўна арыштаваны і сасланы на 3 гады ў Вологду, дзе працаваў у педагагічным інстытуце. Але ў 1937 годзе быў арыштаваны і расстраляны. Пяць гадоў таму П. А. Бузук быў рэабілітаваны.

П. А. Бузук валодаў усімі славянскімі мовамі, румынскай, італьянскай, нямецкай, англійскай, французскай, літоўскай, татарскай, яўрэйскай, грэчаскай, лацінскай, грузінскай, што дазволіла яму плённа распрацоўваць пытанні ўзаемадзеяння моў, праблему пачатковага рассялення праславян і дыялектнага драблення іх мовы.

На акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі, што адбылася ў лістападзе 1926 г., П. А. Бузук прачытаў даклад «Становішча беларускай мовы сярод іншых славянскіх моў».

*Паводле Я. М. Рамановіч і А. К. Юрэвіч.*




*Рубрыку вядзе*

*ЛЯВОН БАРШЧЭЎСКІ*

У гісторыі французскай паэзіі драматычная постаць Арцюра Рэмбо (1854—1891) займае асаблівае месца дзякуючы пранікнёнай вастрыні яго паэтычнага чуцця.

Арцюр РЭМБО

## Галава фаўна

У схованах лісця, дзе ўскалых заціх,
У лісці, дзе стаіўся страх і сорам,
У кветцы пацалунак спіць, усіх
Дзівуючы прарочыстым узорам.

Два вокі фаўн паказвае свае
І чырвань кветак белымі зубамі
Кусае і крывавым ротам п'е
Ва ўсмешлівым галлі віно забавы.

І, як вавёрка, ўцёк, а смех суздром
Дрыготкай лісця выдае кірунак,
Відаць, як ён апудзіў снегіром
Зажуранага лесу пацалунак.

Пераклад з французскай
Рыгора БАРАДУЛІНА.

## П'яны карабель

*(фрагмент)*

Я ішоў па цячэнні бязмежнай прасторы,
Ды аднойчы я ўбачыў паўстанне рабоў:
Паганятых сваіх, перш чым кінуць у мора,
Прывязалі яны да пярэстых слупоў.

Я ўцякаў ад каманды, пасланай у цёмнач —
І бавоўну, і збожжа — у прорву, на дно!
Толькі сціхнуў на палубе лямант: «На помач!»,—
Лёс мне плыць загадаў, а куды — ўсё адно.

Апантанае мора знянацку, шалёна
Уздымалася злева і справа сцяной.
Я імчаўся па волі стыхіі салёнай...
Хай вас Бог уратуе ад плыні такой!

Гэта сіла нячыстая ўдарыла ў трубы!
Быццам трэска, матляўся я дзесяць начэй,
Дзе — паводле падання — гайдаюцца трупы,
Неўпрыкмет ад жывых чалавечых вачэй.

Дыхаў кіслым паветрам. Стырна не знаходзіў...
Якар струшчаны ўшчэнт, а зямлі не відаць...
Змыла з палубы вінныя плямы стагоддзяў
Ашалелая хваля... У труме — вада!

Вось тады прада мной і паўстала паэма —
Залатая паэма шматзорных глыбінь.
І адкрылася мне недаступная тэма,
Аб якой толькі знае тапелец адзін.

І калі мне абрыдла па моры матляцца —
Як імгненне, я тую надзею лавіў,
Што гарчэй ад гарэлкі, вышэй ад мастацтва...
Неспатольная, вечная прага любві!..

Пераклад з французскай
Міколы ФЕДЗЮКОВІЧА.

*Чыталі?*

# «Пралеска» — № 7—8

У канцы кастрычніка да чытачоў прыйшоў часопіс «Пралеска» за ліпень і жнівень (№ 7—8). Затрымаўся ён, як і папярэднія нумары, на паліграфічнай дарозе. Пагартаем яго старонкі і паглядзім, які матэрыял ён змяшчае.

Рубрыка «На шляху нацыянальнага адраджэння» адкрываецца артыкулам начальніка ўпраўлення дашкольнага выхавання Міністэрства асветы Т. Карасцялёвай «Ёсць перспектывы!», дзе даецца не вельмі радасная карціна сучаснага стану дашкольнага выхавання (за два мінулыя гады перастала існаваць 316 дашкольных устаноў, з іх 263 у сельскай мясцовасці, упершыню не змаглі ўладкавацца на работу ў дзіцячыя сады і яслі выпускнікі педінстытутаў і вучылішчаў), аналізуюцца прычыны такога становішча і намячаюцца шляхі павароту да новых форм арганізацыі дашкольнага выхавання.

Уладзімір Арлоў на гэты раз вядзе аповяд пра нашага слыннага суайчынніка, паэта XVI стагоддзя Міколу Гусоўскага і яго «Песню пра зубра».

Уражваюць старонкі рубрыкі «Жыццё пасля Чарнобыля». Гаворку пра будучыню Беларусі, яе экалогію, што вялася за «круглым сталом» у час II міжнароднага жаночага кінафестывалю, занатавала Л. Саламаха ў артыкуле «Дзе вы бачылі такое?». Людзі гаварылі з вялікім болем у сэрцы пра ўсю гаму экалагічных праблем. Так, сп. Сіўчык, старшыня камісіі па правах дзіцяці жаночага Хрысціянска-дэмакратычнага руху Беларусі, адзначала, што, «па сведчанню вучоных, пагаршэнне здароўя на 20 працэнтаў звязана з недахопамі ў рабоце органаў аховы здароўя, а астатнія 80 працэнтаў выклікана пагаршэннем якасці паветра, вады, прадуктаў харчавання і інш.». Членкарэспандэнт АН В. Лукашоў падкрэсліў, што «асноўнай экалагічнай праблемай у Беларусі з'яўляецца Чарнобыль, і ён яшчэ стагоддзямі будзе жахліва актуальны». Дырэктар Міжнароднага незалежнага радыяцыйна-экалагічнага цэнтра А. Волкаў прывёў выказванне японскай пісьменніцы: «Дзе вы бачылі ў свеце, каб жанчына клала ў талерку дзяцей яд, каб іх атруціць?» А нашы дзеці, адзначыў выступаючы, атрымліваюць гэты яд кожны дзень.

Што можна зрабіць, каб зменшыць неспрыяльнае ўздзеянне тых умоў, у якіх вымушаны жыць і расці нашы дзеці сёння,— асноўны змест гутаркі Т. Сакаловай з галоўным педыятрам Гомельскай вобласці В. І. Крывіцкім («Чырвоныя яблокі над лесам»). Аказваецца, многае трэба рабіць. Але гэта мала каго турбуе. Пакуль што гэта толькі клопат бацькоў.

Як заўсёды, багатая на разнастайны матэрыял рубрыка «Методыка. Вопыт. Планаванне». Перш за ўсё варта звярнуць увагу на дыдактычныя і метадычныя матэрыялы «Азбукоўніка і лічылкі» З. Куставай, а таксама на «Дапаможнік па навучанню французскай мове ў беларускамоўных дзіцячых садах» А. Афанасьевай. Карысны тэарэтычны і практычны матэрыял выхавальнік знойдзе ў канспекце занятку па развіцці мовы ў старэйшай групе («Світаюць слоўцы новыя»), які прапанавала метадыст ясляў-сада № 447 Менска А. Макавей, у «Занятках выяўленчым мастацтвам дзяцей дашкольнага ўзросту» навуковага супрацоўніка Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей Т. Бембель. Даючы тэарэтычны і практычны матэрыял, аўтар засяроджвае ўвагу на ролі мовы ў засваенні колераў і іх адценняў, падкрэслівае, што «беларуская мова дае шмат выразных назваў колераў, прыгожых па гучанню: бэзавы, ружовы, барвовы, пралескавы, шызы, журавінны... А колькі формаўтваральны мае кожная назва!» І прыводзіць да слова «жоўты» варыянты паводле слоўнічка В. Ластоўскага: жоўценькі, жаўтаваты, жоўтасць, жаўціня, жаўцізна, жаўцянка, жаўтушка, жоўтны, жутлы, жуцень, жаўцяк, жаўтух, жаўтым, жаўціць, жаўцець. Сапраўды, якое моўнае багацце! І яно можа быць засвоена, калі дзіцяці даецца магчымасць самавыяўлення ў творчасці.

Дзеляцца сваім вопытам работы на старонках часопіса супрацоўнікі дзіцячых устаноў: музычны кіраўнік дзіцячага сада № 9 Полацка А. Гнейзер («Лета ў агародзе»), выхавацель бабруйскага дзіцячага дома № 1 для дзяцей з затрымкай у псіхічным развіцці Н. Тарлыкова («Мы за праменчыкам ідзём»), выхавацель дзіцячага сада № 66 Брэста В. Кукса («З чыстай думай у душы»). Заканчваецца рубрыка дыдактычнымі гульнямі з геаметрычнымі фігурамі, якія прапануе метадыст Беларускага цэнтра гульні і цацкі А. Корзун («Зробім разам»).

«Экалагічная сцяжынка» на гэты раз прапануе каляндар прыроды, экалагічныя гульні і літаратурныя творы.

З рубрыкі «Традыцыі. Абрады. Фальклор» можна даведацца шмат цікавага пра абрады, якімі пачыналася і заканчвалася жытво (В. Скідан «Ад зажынак да дажынак»), як арганізаваць з дзецьмі свята (К. Варанко «Дажынкі»), забавы, што прапануе А. Лозка («Каціласа торба з вялікага горба...»).

Багата матэрыялу і ў іншых традыцыйных рубрыках. Часопіс добра ілюстраваны.

Г. П.

*Чыталі?*

# *Вяртанне «Географіі Беларусі» А. Смоліча*

Упершыню кніга гэта пабачыла свет у 1919 годзе, у той час, калі «нацыянальны рух шырокаю ракой разліўся па Беларусі і ўжо шмат церпіць ад таго, што ня толькі шырокая публіка, а нават шмат хто з маладых беларускіх працаўнікоў, ня маюць аб родным краі найпатрэбнейшых ведамасьцяў і часта навет ня ведаюць, скуль іх могуць узяць» (А. Смоліч. З прадмовы да 1-га выдання, 1919).

Згаданая кніга нашага выдатнага навукоўца і палітычнага дзеяча Аркадзя Смоліча дапамагла ў вывучэнні прыроды, насельніцтва і гаспадаркі роднага краю. Дзякуючы гэтай кнізе, шмат хто з нашых суайчыннікаў у свой час паверыў, што наш край здольны і здатны да самастойнага эканамічнага, палітычнага і нацыянальнага развіцця.

Кніга ўжо перавыдавалася тры разы. Сёлетняе перавыданне — чацвёртае. З таго часу, натуральна, вельмі многае змянілася: навуковыя веды пра прыроду Беларусі значна паглыбіліся, яны сталі больш дасканалымі. Пагоршылася экалогія Беларусі, ды і ўвогуле эканамічны стан нашай краіны нельга параўнаць з ранейшым узроўнем гаспадаркі. Але і сёння кніга застаецца ўзорам навукова-папулярнага апісання Бацькаўшчыны. Яна напісана прыгожай літаратурнай мовай, багата ілюстравана, насычаная цікавымі звесткамі з гісторыі і этнаграфіі Беларусі.

Застаецца дадаць, што яна выйшла ў выдавецтве «Беларусь» па заказу Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, накладам 10 тысяч паасобнікаў. Набыць выданне можна ў кнігарнях «Белкнігі» і кіёсках ТБМ.

Генусь ПУШЧАНСКІ.

# «Зорка Палын — над нашай Айчынай...»

«...І мне ёсць за што сябе дакараць. Не адзін год кіраваў я кафедрай ядзернай фізікі, не адзін год быў упэўнены, што верагоднасць катастрофы на ядзерным рэактары — велічыня вельмі, вельмі малая... Доўгі час заставаўся ўпэўненым, што ядзерная энергетыка экалагічна чысцейшая за цеплавую.

А паэты думалі пра жыццё, пра чалавека, і думалі часам па-іншаму. Паэты і зараз думаюць інакш, чым кіраўнікі і многія навукоўцы. Яны адчуваюць тое, што не вымяраецца самымі дакладнымі прыборамі. Ды ў беларускіх паэтаў няма той крывадушнасці і раўнадушша, якіх так многа ў тых «дзядзькоў», што гадамі адмаўляюць людзям на права жыць у чыстым асяроддзі і не нясуць пры гэтым ніякай адказнасці. Вершы гэтай кнігі напоўнены высокай эмацыянальнасцю, кранальнай непасрэднасцю, хоць часам дзе-ніdзе і прысутнічаюць наіўныя ўяўленні» — гэта радкі з уступнага слова Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча да кнігі «Зорка Палын», што напісалі паэты пра чарнобыльскую трагедыю і якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

У кнігу ўвайшлі вершы Пімена Панчанкі, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Грачанікава, Максіма Танка, Васіля Зуёнка, Дануты Бічэль-Загнетавай і іншых. Акрамя вершаў, у кнізе змешчаны паэмы Сяргея Законнікава «Чорная быль», Уладзіміра Някляева «Зона», Янкі Сіпакова «Одзіум» і Анатоля Зэкава «Аварыя сумлення».

Кнігу «Зорка Палын» склаў Алесь Бельскі. Ганарар за яе аўтары ахвяравалі ў фонд «Дзеці Чарнобыля». Кніга выйшла невялікім накладам, але яе яшчэ можна набыць у кнігарнях. Спяшайцеся!

Н. К.

# Усім арганізацыям ТБМ

Напрыканцы верасня г. г. на сумесным пасяджэнні сакратарыята Рэспубліканскай Рады ТБМ і Менскай гарадской арганізацыі ТБМ абмеркавана пытанне аб далейшай рабоце па выкананні Пастановы III з'езда ТБМ.

Справаздача аб пасяджэнні і прынятая па выніках абмеркавання Пастанова надрукаваны ў газеце «Наша слова», № 41 ад 13 кастрычніка г. г.

Спадзеючыся, што ў Вашай арганізацыі абмеркавана гэтая Пастанова, просім даслаць на наш адрас адпаведную інфармацыю. Пажадана, каб у гэтай інфармацыі былі змешчаны наступныя звесткі:

— калі ў апошні раз праводзілася канферэнцыя вашай арганізацыі;

— колькасны склад арганізацыі (колькасць суполак і колькі яны аб'ядноўваюць сяброў Таварыства, прозвішчы старшынь, намеснікаў, скарбніка, адрас, а калі ёсць тэлефон — яго нумар, нумар банкаўскага рахунку, якія самадзейныя аб'яднанні, прадугледжаныя статутам, створаны пры арганізацыі ТБМ, з якімі дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі супрацоўнічае Таварыства);

— якую дапамогу і падтрымку аказваюць ТБМ мясцовыя органы ўлады, арганізацыі — заснавальнікі Таварыства, сродкі масавай інфармацыі, камерцыйныя структуры;

— якую работу праводзіць арганізацыя ТБМ па стварэнні беларускамоўнага асяроддзя, па садзейнічанні дзяржаўным і грамадскім арганізацыям у вывучэнні беларускай мовы, пераводу справаводства на беларускую мову;

— калі пры ТБМ (раёна, рэгіёна) створаны юнацкія (дзіцячыя) секцыі (суполкі) ТБМ, паведаміце, па магчымасці падрабязна, пра іх работу, якія формы гэтай работы імі выкарыстоўваюцца (алімпіяды, конкурсы, лекторыі, гурткі, мастацкая самадзейнасць, шэфская работа, а таксама ў іншай дзейнасці, прадугледжанай статутам ТБМ).

Паведаміце, калі ласка, пра найбольш актыўна працуючыя суполкі, прозвішчы актывістаў гэтых суполак.

Якія дзяржаўныя, грамадскія і камерцыйныя арганізацыі вашага рэгіёна найбольш вызначаюцца ў рабоце па выкананні Закона аб мовах?

Неабходна таксама даслаць фінансавую справаздачу аб прыбытках, расходах і рэшце грашовых сродкаў на рахунках арганізацыі ТБМ. Рэшта грошай павінна быць пацверджана выпіскай з банка.

Нас таксама цікавяць вашы прапановы, пажаданні ў далейшым удасканаленні работы па выкананні Закона аб мовах і Дзяржаўнай праграмы яе развіцця, вашы праблемы. Як адзначана ў Пастанове сакратарыята, чакаем вашай інфармацыі не пазней 15 снежня г. г.

З падзякай за ўсё добрае, што зроблена вашай арганізацыяй па адраджэнні роднай мовы, і пажаданнем далейшых поспехаў у гэтай высакароднай справе.

**Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.**

# Народная лякарня

## *Д. ДЖАРВІС: Калій і вадкія выдзяленні*

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 44—46).*

***Для лепшага разумення ўзаемасувязі паміж натрыем і каліем неабходна ведаць, што ўнутрыклетачная вадкасць складае 50 працэнтаў ад вагі цела. Другія 50 працэнтаў вадкасці знаходзяцца за межамі клетак цела. Лімфа крыві складае 5 працэнтаў ад вагі цела, а міжклетачная вадкасць, што абмывае крываносныя сасуды і клеткі, складае 15 працэнтаў.***

***Як калій, так і натрый адрозніваюцца здольнасцю прыцягваць вадкасць. Калій, які ўваходзіць у састаў клетак цела, прыцягвае вадкасць у клеткі. Натрый за межамі клетак цела выконвае падобную ж функцыю. Лепшая крыніца калію — чырвоны перац, мёд, свежая гароднiна, фрукты і ягады, лепшая крыніца натрыю — звычайная кухонная соль.***

***Паміж каліем і натрыем адбываецца пастаянная канкурэнцыя, барацьба за вадкасць. Калі перавага на баку натрыю — вадкасць клетак выходзіць за іх межы. Калі перавага на баку калію — адбываецца адваротны працэс, гэта значыць, што вадкасць паступае ў клеткі цела. Празмернае ўжыванне кухоннай солі прыводзіць да страты калію арганізмам, што недапушчальна, паколькі калій — адзіны мінеральны элемент, неабходны для падтрымання нармальнага стану нервовай сістэмы.***

***Кожны, хто хоча захаваць добрае здароўе, павінен навучыцца рэгуляваць баланс паміж каліем і натрыем у сваім арганізме. Найбольшую ўвагу трэба звяртаць на мінеральны абмен. Кожны можа навучыцца вызначаць, якія мінеральныя элементы неабходны, і папаўняць недахоп любога з іх для падтрымання нармальнага стану арганізма.***

# *Традыцыі*



НА ЗДЫМКУ: удзельнікі фальклорнага калектыву в. Урцішкі Іўеўскага раёна за вясельным сталом. З акардэонам — Іосіф Барадзік, якога па заслугах лічаць душой ансамбля.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛІНФАРМ.**

# Памяці Сяргея КАРНІЛОВІЧА

Яшчэ зусім, здаецца, нядаўна мы з ім сустракаліся на Першым сусветным з'ездзе Беларусі, гутарылі аб далейшых планах, ён наведаў вечарыну, якую ладзіў клуб «Спадчына», і вось з Кліўленда прыйшла сумная вестка — раптоўна, на 65-м годзе жыцця памёр Сяргей Карніловіч, палымяны патрыёт Маці-Беларусі, сціплы і добразычлівы чалавек.

Са смерцю Сяргея Карніловіча панесла вялікую страту не толькі кліўлендская беларуская абшчына (менавіта тут яго намаганнямі былі створаны інстытуцыі, якія ўжо сталі гістарычнымі — гэта Беларускі культурны цэнтр «Полацак» і аднайменны часопіс), беларускія грамадска-палітычныя арганізацыі ў Амерыцы, але і патрыятычныя арганізацыі на Бацькаўшчыне — уся свядомая Беларусь. Усім ім Сяргей Карніловіч быў добрым сябрам, шчырым і пастаянным памагатым. Быў ён шчырым прыхільнікам, пачынальнікам і нязменным арганізатарам аказання дапамогі ўсім пацярпелым на Беларусі ад чарнобыльскай навалы. Такім ён і застанецца ў нашай памяці — добрым, спагадлівым, сціплым, руплівым за свой народ і любую яму Беларусь.

Выказваем свае шчырыя спачуванні родным і блізкім нябожчыка, а таксама ўсім беларусам Кліўленда і Амерыкі ў сувязі з напаткаўшым іх вялікім горам. Няхай пухам будзе яму Амерыканская зямля!

Сябры Менскага клуба «Спадчына», сябры БНФ «Адраджэнне», управа ЗБС «Бацькаўшчына», сябры ТБМ і іншыя беларускія патрыёты.

*Іранічныя радкі*

*Вінцук АСЬЦЮК*

## Кажуць...

Сёння людзі шмат што
кажуць,
Нібы венікі ўсе вяжуць.
Кажуць, што і ў Пазьняка
За мяжою ёсць рука
І таму ён гэткі смелы,
Носіць бел-чырвона-белы,
Часта ўсюды выступае,
Камуністаў вельмі лае.
Кажуць, што і ў Менску
сала,
Нібы снег вясной, прапала,
Бо яго на розны святы
З'елі нашы дэпутаты,
А пасля яшчэ за раз
Праглынулі нафту й газ.
Праўда, гэта ім не шкодзіць,
Кожны з іх, як бочка,
ходзіць.
Кажуць, нейкі абібок
Вывеў гэткі агурок,
Што яго на год хапае.
Праўда гэта? Бог то знае.
Кажуць, што і «дэмакраты» —
Тыя ж, нашы, бюракраты,
Што яшчэ амаль учора
Намі правілі ў канторах,
І няма на іх закона,
Каб прагнаць, нібы варонаў.
Кажуць, што для рускай мовы
Вельмі ж дрэнныя ўмовы
І яна адна ў краіне
Сіратой бязлёсный гіне,
Бо яе ўсе прыніжаюць,
Бо яе забараняюць.
Беларуская ж — пануе,
Нават Кебіч з ёй сябруе,
Ды і слаўны Дзямянцей
Смела кажа да людзей:
«Как хачу — так гавару!»
Прыклад многія бяруць
З гутаркі яго разумнай,
Ад якой курам не сумна,
Што сінеюць на вітрынах
Беларускіх магазінаў.
Кажуць, што мы ўсе расейцы,
Ды на нас патрэбны лейцы,
Каб мы самі без Масквы
Не зламалі галавы.
Кажуць, не было ніколі
Ні дзяржавы ў нас, ні волі,
Вечна мы былі ў лапцях
З каўтунамі ў валасах.
Так далей бы і жылі,
Каб Саветы не прыйшлі.
Кажуць, што без камуністаў
Будзе больш авантурыстаў,
Чым пры іх было на свеце
У любым у кабінеце.
Кажуць, што ў рублёвай зоне
Будзем мы, як зэкі ў зоне,
Будзе нас карміць, паіць
Той, хто у Маскве сядзіць,
І бясплатна нафта й газ
Пацякуць ракой да нас.
Кажуць, што саюз вайсковы
Вельмі ўжо такі талковы
І ўсе нашыя салдаты
Тут ля мамы і ля таты
Будуць кветкі сабіраць
І нідзе не ваяваць.
Кажуць, мы не разумеем,
Што ў саюзе мы займеем,
Талерантныя, слабыя,
Без саюзаў ледзь жывыя.
Шмат чаго шчэ кажуць
людзі!
Кажуць, шчэ й не тое будзе,
Што было і ёсць цяпер.
Толькі мне, чытач, павер,
Што ў жыццёвай мітусні
Шуму шмат і шмат хлусні,
І што праўда, што мана,
(Ну, а праўда век адна)
Ты павінен бачыць сам,
Нават выпіўшы сто грам.

Кастрычнік, 1993 г.

# ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**25 ЛІСТАПАДА, ЧАЦВЕР**

13.00. «Палессе мілае дзіця...» Памяці паэтэсы Я. Янішчыц.
17.20. Тэлебачанне — школе. Геаграфія Беларусі. IX клас. Насельніцтва Беларусі.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.45. Актуальнае інтэрв'ю.
21.00. Панарама.
22.10. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**26 ЛІСТАПАДА, ПЯТНІЦА**

11.00. Актуальнае інтэрв'ю.
17.40. Прэм'ера кнігі. Н. Маеўская.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
21.00. Панарама.
21.45. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**27 ЛІСТАПАДА, СУБОТА**

10.10. Паказвае Гродна.
13.05. Паэтычная гасцёўня. Вершы Людмілы Рублеўскай.
15.05. Маладзечна-94. Прэзентацыя II Міжнароднага фестывалю беларускай песні. Прэм'ера вакальнага цыкла Э. Зарыцкага на вершы Н. Гілевіча «Мара Скарыны».
18.15. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
21.00. Панарама.
23.35. НІКа.

**28 ЛІСТАПАДА, НЯДЗЕЛЯ**

10.25. «Сіняя Світа». Прэм'ера тэлевізійнага спектакля паводле беларускіх народных казак.
19.00. Радавод.
20.00. Панарама.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13. Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 298.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.

Наклад 7329 паасобнікаў. Падпісана ў друк 22.11.1993 г. у 15 гадзін.